FIRST CLASS MAIL



# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№434 Травень 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

# КРЫВАВАЯ ВЯСНА 96

Дзесяцігодзьдзе пасьля Чарнобыля было адзначанае сёлета ў Менску крываваю расправаю рэжымам Лукашэнкі з удзельнікамі шэсьця «Чарнобыльскі шлях-96». Па розных вестках ад 40 да 80 тысяч чалавек выйшла на вуліцы Менску на заклік Арганізацыйнага Камітэту, сфармаванага з найболыш аўтарытэтных дзеячоў культуры і палітыкі. У разгоне шэсьця бралі ўдзел сілы ня толькі беларускай міліцыі, але таксама запрошаны з Масквы Аддзел міліцыі асаблівага прызначэньня (АМОН). Супроць дэманстрантаў ужываўся сьлёзны газ і дубінкі. Сярод вядомых нам пацярпелых Язэп Янушкевіч, Алесь Жлутка, Эдвард Тарлецкі, Аляксей Марачкін, сп. М. Анцыповіч, два дэпутаты Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч і Аляксандар Дабравольскі. Падчас і пасьля шэсьця было арыштавана 204 асобы, сярод іх дэпутат Вярхоўнага Савету Павал Знавец, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны, сябры Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, арганізацый «Правы рэванш», «Белы легіён», партыі Свабоды, журналісты, пасланцы Ўкраінскай Нацыянальнай Асамблеі (УНА). Мабілізаваныя судзьдзі выносілі выракі адразу ў камэрах. Дзесяткі людзей былі засуджаныя да кароткіх тэрмінаў турэмнага зьняволеньня. Усім арыштаваным пагражае звальненьне з працы, а студэнтам з месцаў вучобы. Над Беларускім Народным Фронтам вісіць рэальная пагроза дэлегалізацыі. Маёмасьць штаб-кватэры БНФ апісаная. Чатыры асобы з Управы БНФ Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык і Юры Хадыка былі арыштаваныя ўвечары альбо на наступны дзень пасьля шэсьця. У дачыненьні да ўсіх чатырох улады рыхтуюцца выставіць крымінальныя абвінавачваньні ў арганізацыі масавых беспарадкаў з тэрмінам зьняволеньня да трох гадоў. Паводле апошніх зьвестак, 6 Мая (калі афіцыйна канчаўся тэрмін магчымага папярэдняга затрыманьня Ю. Хадыкі) адбыўся суд без прысутнасьці самога Ю. Хадыкі ці ягонага адваката. Судзьдзя дазволіў і далей трымаць Хадыку ў камэры зьняволеньня аж да высьвятленьня абвінавачаньня.

Сакавіцка-красавіцка-майскія падзеі ў Беларусі па-магчымасьці поўна асьвятляюцца толькі некалькімі апазыцыйнымі газэтамі, Радыё «Свабода», а таксама ўкраінскімі і польскімі сродкамі масавай інфармацыі. Расейскія і салідарныя ім амэрыканскія найбуйнейшыя mass-media, трактуючы Беларусь як розыгрышную карту ў Ельцынскай перадвыбарчай кампаніі, асьвятляюць падзеі каротка-хранікальна, практычна ігнаруючы дыктатарскія тэрарыстычныя дзеяньні рэжыму Лукашэнкі. Мы таксама можам канстатаваць, што беларускія ўлады ўзялі пад кантроль і блякуюць пошту, тэлефонную і факсавую сувязь. З многіх адрасаваных на беларускія арганізацыі ў Амэрыцы паведамленьні пра падзеі дайшлі толькі выпадковыя. Сярод іх друкаваны ніжэй ліст з турмы намесьніка старшыні БНФ Юрася Хадыкі і ліст ад яго сям'і.

**Пішу Вам з камэры ізалятара часовага затрыманьня, куды трапіў пасьля Чарнобыльскага шэсьця — 96. Шэсьце атрымалася магутнае, сабралася тысяч 80. Мяркуючы па дэманстрацыях, якіх за месяц з 24 сакавіка адбылася ажно 3, менькі пачынаюць прачынацца. Асабліва прыемна, што актыўны ўдзел бярэ моладзь.**

*(Тут сп. Ю. Хадыка піша пра акалічнасьці падтрыхтоўкі да шэсьця й стварэньне Арганізацыйнага Камітэту* — Рэд.)

**У аргкамітэт увайшлі В. Быкаў, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, дэпутаты Г. Карпенка, П. Знавец, С. Шушкевіч, С. Багданкевіч, згадзіўся нават М. Грыб, але не падпісаў звароту, акадэмік Р. Гарэцкі...**

**Дазвол атрымалі праз тры выхадныя дні, раніцою 24-га. У ім паведамлялася, што нам дазваляецца далучыцца да арганізацыйнага мерапрыемства, прызначанага на гэтым жа паседжаньні, на былой балотнай станцыі. Шэсьце па пр. Ф. Скарыны і мітынг на пл. Незалежнасьці забараняліся без якіх-небудзь падстаў, калі не лічыць спасылку на нейкае рашэньне Кабінета Міністраў пра тое, што на Плошчы Незалежнасьці дазволена праводзіць мітынгі толькі ў дні дзяржаўных сьвят. Але і гэтая спасылка супярэчыла прынятаму тым жа Кабінетам у той жа дзень рашэньню абвясьціць 26-га красавіка Днём Нацыянальнага Смутку.**

**Стала зразумела, што гарадзкія ўлады імкнуцца стварыць правакацыйную сытуацыю, ужыць сілу і распачаць перасьлед дэмакратычных партый і, найперш, БНФ. Але адступаць ужо ня было куды, бо праз улёткі людзі ведалі, што збор у 17.00 ля Акадэміі навук і шэсьце...**

*(Тут у лісьце паведамляецца пра першыя сутычкі ўдзельнікаў шэсьця зь міліцыяй* — Рэд.)

**Не вытрымаў напору і другі кардон на перакрыжаваньні праспэкту і вуліцы Даўгабродзкай.**

**Толькі каля цырку з цяжкасьцю калёну ўдалося павярнуць управа і пазьбегнуць трэйцяга сутыкненьня са спэцназам, таму многія ірваліся на пл. Незалежнасьці.**

**Мітынг прайшоў нармальна. Але пасьля яго, калі людзі сталі разыходзіцца, пачалося паляваньне. Маладых хлапцоў, асабліва тых, хто нес бел-чырвона-белыя сьцягі зьбівалі на прыпынках гарадзкога транспарту, хапалі і завозілі ў пастарункі. Каля 23 гадзін АМАП, ці КДБ зрабіў налёт на штаб-кватэру. Пакуль яны хапалі людзей у першым пакоі, нам з Пазьняком удалося сыйсьці. З. Пазьняк толькі ў гэты дзень прыехаў з Польшчы, выступаў на мітынгу. Але ў гэты ж дзень быў вымушаны пачаць адваротны шлях, бо нам дакладна стала ведама пра загад А. Лукашэнкі арыштаваць яго.**

**Мяне ж затрымалі раніцаю наступнага дня, калі я накіроўваўся на прэс-канфэрэнцыю. Затрыманы таксама Л. Баршчэўскі, В. Вячорка, В. Сіўчык, В. Каролік. Затрыманы, але выпушчаны П. Знавец. Пра астатніх пакуль не ведаю. Зараз трэба чакаць забароны БНФ і вяртаньня да стану 1989 г.**

**Вось Вам абразок, можа крыху больш насычаны, але даволі звычайны для нашага жыцьця, поўнага вязкай, цяжкой, часам здаецца і бязсэнсоўнай барацьбы.**

*З 27 красавіка Ю. Хадыка ўтрымліваўся ў ізалятары часовага затрыманьня па адрасу Дабрамысьленскі зав., 5. Абвінавачаньне супраць яго ня было вынесена і ў законны тэрмін 30 красавіка, але па санкцыі пракурора Менска Мікалая Купрыянава тэрмін затрыманьня быў працягнуты да 10 дзён, а затрыманы пераведзены ў турму на вул. Валадарскага. Насуперак арт. 49 крымінальна-працэсуальнага Кодэксу, да затрыманага не дапушчаецца адвакат, у сувязі с чым ім абвешчана галадоўка.*

*Непасрэднае ўмяшаньне ў працэс ажыцьцяўляецца прэзыдэнтам Лукашэнкам, які 29 красавіка а 12 гадзіне выклікаў да сябе па справе аб падзеях Генеральнага пракурора В. Капітана, пракурора Менска М. Купрыянава і прадстаўнікоў Міністэрства юстыцыі. Па інфармацыі з Пракуратуры, Ю. Хадыку будзе вынесена абвінавачваньне па арт. 186-3 КК Беларусі «Дзеяньні, зьвязаныя з арганізацыяй або ўдзелам у масавых беспарадках», з тэрмінам пакараньня да трох гадоў зьняволеньня. Працэсуальныя нормы прадугледжваюць магчымасьць яго затрыманьня на працягу 2 месяцаў пад сьледствам і 1 месяца да суда. Відавочна, што палітычны перасьлед падаецца ўладамі, як звычайная крымінальная справа.*

*2 траўня сваякамі зьняволенага распачатае пікетаваньне турмы. Просім Вас садзейнічаць пашырэньню гэтых зьвестак за межамі Беларусі з мэтаю аказаньня ўціску на ўлады ў сувязі з парушэньнем правоў чалавека.*

*Адрас для кантактаў:*
*220013, Беларусь, Мінск. Я. Коласа, 25/1, кв. 1*
*тэл. 011375172 (код) 32-57-51 (будзе ўсталяваны факс)*
*E-mail: alex@belfcf.minsk.by*
*Валянціна Зімніцкая (Хадыка), Аляксей Хадыка*

**Падрыхтавала Алеся Сёмуха**

## СУСТРЭЧА Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ДЭПАРТАМАНЦЕ

У панядзелак 13 травеня дэлегацыя ад беларуска-амэрыканскага грамадзтва наведала Дзяржаўны Дэпартамант на прапанову пасла ЗША ў Беларусі Кенэта Ялавіца. Сп. Ялавіц правёў колькі тыдняў у Амэрыцы, выступаў перад амэрыканскімі бізнэсмэнамі на тэму беларускай эканомікі і палітычнага палажэньня. У гутарцы з дэлегацыяй узяў удзел таксама пасол ЗША для краінаў СНД сп. Джэймс Колінс.

Сп. Ялавіц паінфармаваў пра складанае палажэньне на Беларусі, асабліва праблемы эканамічнае адбудовы і зьвязанага з гэтым заканадаўства. Ён падкрэсьліў падтрымваньне Злучанымі Штатамі справы незалежнасьці Беларусі і ходу дэмакратычных рэформаў, абароны правоў чалавека і свабоды друку.

Сп. Колінс вытлумачыў, як амэрыканскі ўрад разумее прынцып інтэграцыі, пра якую шмат гутарак у Беларусі, і сказаў, што экспэрты Дзяржддэпартаманту аналізуюць цяпер тэкст падпісанага ў Маскве 2 красавіка беларуска-расейскага дагавору. Паслы адказалі на шматлікія пытаньні дэлегатаў, у тым ліку пра долю арыштаваных лідэраў БНФ Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка, а таксама Славаміра Адамовіча.

У складзе дэлегацыі былі: Язэп Арцюх, Расьціслаў Завістовіч, Янка Запруднік, Алеся Кіпель, Галіна Русак і Алекс Сільвіновіч.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# БЕЛАРУСКІЯ ПІКЕТЫ

## У МАСКВЕ

25-га Сакавіка, у Дзень Волі беларуская арганізаваная дыяспара Масквы наладзіла пікет перад будынкам амбасады Рэспублікі Беларусь у сталіцы Расеі. Пастанову пра пікет прыняла Кіруючая Рада Маскоўскага Таварыства беларускае культуры імя Фр. Скарыны пры падтрымцы маскоўскае філіі Беларускага Народнага Фронту ды прадстаўнікоў маскоўскае украінскае абшчыны.

У заяве накіраванай Прэзыдэнту РБ А. Лукашэнку, Амбасадару РБ у Расейскай Фэдэрацыі й Міністру замежных справаў РБ, між іншага, гаворыцца:

***Мы выйшлі на пікетаваньне ў Сьвяточны Дзень 25-га сакавіка. Гэта Дзень Волі беларускага народу...***

***Апошнія два гады Вы ва ўгоду расійскім імпэрыялістам ... усё робіце на карысьць тых камуністычна-вайсковых і зьлюмпэнізаваных колаў, якім заўсёды Беларусь і яе культура былі чужыя. Вы зрабілі столькі зла беларускаму этнасу, падвёўшы яго да рысы фізычнага зьнікненьня з сусьветнай гісторыі, што даўно ўжо перапоўніла межы хрысьціянскага цярпеньня.***

***Але ёсьць на сьвеце Бог — рана ці позна ён карае. Вы і Ваша чужынская хэўра не вечныя...***

***Скарыстаўшыся даверам і гістарычнай недасьведчанасьцю беларускага народу, не забывайцеся — шмат беларусаў ніколі не пагодзяцца са зьдзекам над сваёю культураю і зьнішчэньнем Бацькаўшчыны...***

Заява была ўручаная амбасадару РБ у Расеі.

Пікет адбываўся пад лёзунгамі «Лукашэнка — духоўны Чарнобыль беларускага народу!», «Не — імпэрыі!», «Жыве незалежная Беларусь!»

На мейсцы пікету пабывалі прадстаўнікі прэсы, радыё і тэлекампаній Масквы. Зробленыя імі інфармацыйныя сюжэты пайшлі ў радыё і тэлээфір Расеі і Беларусі.

*(Паводле інфармацыі Т.М. з Масквы)*

## У ВІЛЬНІ

25-га Сакавіка беларусы Вільні наладзілі пратэст супраць антыдэмакратычнае й антынацыянальнае палітыкі А. Лукашэнкі. Акцыя гэтаксама была прымеркаваная да 78-х угодкаў Абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі.

Пікетчыкі зьбіралі подпісы пад лістом у Канстытуцыйны Суд Беларусі з просьбай даць ацэнку «незаконным дзеяньням» А. Лукашэнкі, якія скіраваныя на ліквідацыю дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

У гэты ж дзень жыхар Вільні Валеры Савянкоў меў намер правесьці перад амбасадай адмысловую акцыю з мэтай «выгнаць антыхрыста» з будынку афіцыйнага прадстаўніцтва РБ.

*(Паводле летувіскага друку)*

## У БЕЛАСТОКУ

1-га травеня перад будынкам Гэнэральнага Консульства Беларусі ў Беластоку каля 50 асобаў наладзілі пікет пратэсту супраць гвалтоўных акцыяў беларускай міліцыі і спэцслужбаў супраць удзельнікаў красавіцкіх дэманстрацыяў у Менску ды іншых фактаў парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

У пікеце бралі ўдзел прадстаўнікі беларускае меншасьці й сябры Уніі Працы, ад якое прысутнічаў пасол Артур Смулко. Пікетоўцы сабраліся пад забароненымі ў Рэспубліцы Беларусь бел-чырвона-белымі сьцягамі й скандзіравалі лёзунгі «Жыве Беларусь», «Свабоду арыштаваным» ды іншыя, а таксама спалілі партрэт Лукашэнкі.

Праз некалькі дзён Генэральнае Консульства РБ у Беластоку заявіла афіцыйны пратэст. У дыпляматычнай ноце дзеяньні пікетоўцаў кваліфікаваліся як «зьнявага вышэйшых прадстаўнікоў улады і ганьбаваньне сымбаляў чужое дзяржавы». Генконсул Беларусі М. Сьлямнёў выказаў зьдзіўленьне адсутнасьцю рэакцыі з боку польскіх ворганоў аховы парадку на дзеяньні ўдзельнікаў пікету ды заявіў, што падобныя акцыі могуць спрычыніцца да «паслабленьня пануючых дабрасуседзкіх дачыненьняў паміж дзьвюма дзяржавамі».

Прадстаўнік Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня Алег Латышонак палічыў некаторыя фармулёўкі ноты некарэктнымі, падкрэсьліўшы, што партрэт прэзыдэнта ня ёсьць сымбалем дзяржавы.

## У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Беларусы гор. Кліўленду 2 травеня пратэставалі перад будынкам гарадзкога муніцыпалітэту супраць зьнішчальнае для беларускае дзяржвы палітыкі А. Лукашэнкі.

# АДЗНАЧЭНЬНЕ Ў БЕЛЫМ ДОМЕ 10-Х УГОДКАЎ ЧАРНОБЫЛЯ

Першага травеня ў Белым Доме зь ініцыятывы жонкі прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана сп-ні Гілэры Клінтан, адбылася сустрэча Першай лэйды і віцэ-прэзыдэнта ЗША Ала Гора з пасламі Беларусі, Украіны і Расеі, а таксама прадстаўнікамі амэрыканскіх арганізацыяў і ўстановаў, што займаюцца справай дапамогі ахвярам чарнобыльскай радыяцыі. У сустрэчы бралі ўдзел каля 150 асобаў. Пасол РБ сп. Сяргей Мартынаў, які прыбыў на спатканьне разам з жонкай Маргарытай, перадаў сп-ні Клінтан падборку малюнкаў беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны, а таксама камплект рэпрадукцый сэрыі абразоў беларускага мастака Міхаіла Савіцкага «Чорная быль». Рэпрадукцыя падборкі малюнкаў беларускіх дзяцей зьмешчаная таксама ў мэдыцынскім штогодніку за 1996 год «Энцыклапэдыі Брытаніка».

Дэлегацыя ад беларуска-амэрыканскага грамадзтва перадала Беламу Дому з нагоды чарнобыльскіх угодкаў рэпрадукцыю іконы «Маці Божая ахвяраў Чарнобыля» работы беларускага мастака Аляксея Марачкіна. Рамку іконы аздобіла інкруставанай саломкай маладая мастачка зь Беларусі Тацьцяна Маркавец, якая часова знаходзіцца ў Амэрыцы.

У сваіх выступленьнях на сустрэчы сп-ня Г. Клінтан і віцэ-прэзыдэнт А. Гор падкрэсьлілі калясальны маштаб чарнобыльскае катастрофы і ейных вынікаў для народаў Беларусі, Украіны і Расеі. Яны гаварылі таксама пра гатоўнасьць ЗША працягваць дапамогу гэтам краінам і супрацоўнічаць зь імі ў пераадольваньні наступстваў аварыі. Сп-ня Г. Клінтан зь цяплынёй гаварыла пра наведаньне ёю ў студзені 1994 года дзіцячага шпіталю ў Менску і адзначыла важнасьць гэтага наведаньня для фармаваньня ейнай перакананасьці ў патрэбе міжнароднага супрацоўніцтва ў чарнобыльскім пытаньні.

Беларуска-амэрыканскую грамаду ў Белым Доме прадстаўлялі (у альфабэтным парадку) а. Мячыслаў Брынкевіч, др. Марыя Дэмковіч, спсп. Расьціслаў Завістовіч, Надзя Запруднік, Янка Запруднік, Алеся Кіпель, Боб Цупрык. Былі таксама запрошаны ў Белы Дом сп. Аляксандр Сільвановіч і сп-ня Ніна Сільвановіч, але яны езьдзілі дапамагаць у разьмеркаваньні чарговае партыі мэдыкамэнтаў для ахвяраў Чарнобыля.

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ПРАБЛЕМА Ў КАНГРЭСЕ ЗША

У сувязі зь 10-мі ўгодкамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у Кангрэсе ЗША адбыліся слуханьні аб выніках гэтай бяды. На слуханьнях выступіў пасол Беларусі ў ЗША сп. Сяргей Мартынаў. Ён падкрэсьліў патрэбу міжнароднага і двухбаковага супрацоўніцтва ў галінах гуманітарнай дапамогі, навуковага дасьледваньня вынікаў катастрофы і распрацаваньня тэхналёгіяў па рэгабілітацыі забруджаных зямель. Старшыня камісіі, у якой праводзілася слуханьне, кангрэсмэн Крыстафэр Сміт выказаў гатоўнасьць спрыяць правядзенью ў Кангрэсе захадаў для аказаньня дапамогі пацярпелым рэгіёнам.

На слуханьнях выступілі таксама прадстаўнікі Украіны і украінскай грамадзкасьці ў ЗША.

Пасьля слуханьняў група кангрэсмэнтаў унесьлі ў Палаце Прадстаўнікоў рэзалюцыю, у якой прызнаецца сур'ёзнасьць сацыяльна-эканамічных вынікаў чарнобыльскае аварыі для мільёнаў людзей, што жывуць у забруджаных раёнах. Падобная рэзалюцыя была прынятая 24 красавіка і Сэнатам. Рэзалюцыя заклікае прэзыдэнта ЗША падтрымаць справу далейшай гуманітарнай дапамогі Украіне, Беларусі і Расеі ў пераадольваньні вынікаў чарнобыльскай аварыі, а таксама паспрыяць справе закрыцьця Чарнобыльскай АЭС.

# ЧАРНАБЫЛЬСКАЕ *ЛУКА-ШОЎ* ДЛЯ ЗАХАДУ

Пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры Арганізацыі Аб'едналых Нацый зьвярнулася ў рэдакцыю «Беларуса» з просьбаю апублікаваньня прамовы Аляксандра Лукашэнкі на арганізаванай ААН, Эўрапейскай Камісіяй і інш. арганізацыямі міжнароднай канфэрэнцыі «Дзесяцігодзьдзе пасьля Чарнобылю», што адбылася сёлета ў Вене ў пачатку красавіка. Увесь даклад займае дзевяць старонак расейскамоўнага тэксту. Але зрэзюмаваць яго бяз страты для сэнсу можна да некалькіх беларускіх сказаў. Прэзыдэнт Лукашэнка ставіць праблему выжываньня нацыі ў залежнасьць ад Чарнобыля, а не ад сваёй злачыннай палітыкі, якая нішчыць нацыю і духоўна, і фізычна не на дваццаці, а на 100% тэрыторыі краіны. Пасьля пераліку бюджэтных грашовых выдаткаў (у працэнтах, а не натуральных велічынях) і навукова-тэхнічных дасягненьняў па рэабілітацыі забруджаных тэрыторый, Лукашэнка, акцэнтуючы глябальнасьць Чарнобыльскай трагедыі, зьвяртаецца да сусьветнай супольнасьці па навукова-тэхнічную, інфармацыйную дапамогу і матар'яльнае «супрацоўніцтва на роўных узаемна прымальных умовах» (якая раптам непрыступная патрабавальнасьць). Прапануе стварыць агульны навуковы міждзяржаўны цэнтр па чарнобыльскіх праблемах і Фонд Абароны Плянэты, які б акумуляваў частку даходаў атамнай і энэрга- прамысловасьці. Патэтычна заклікае стварыць тое, што ўжо існуе — міжнародна-прававую адказнасьць дзяржаваў за спрычыненьне ядзерных стратаў іншым дзяржавам. Калі б Прэзыдэнт не ў пачакальні Гранавітай палаты рыхтаваўся да дакладу, ён бы можа і пасьпеў уцяміць, што гэтыя міжнародныя нормы даўно існуюць, але Беларусь (зрэшты, як і Расея) да іх далучацца не сьпяшаецца. Апошняя прапанова з выступленьня на канфэрэнцыі Лукашэнкі заслугоўвае цытаваньня: «Маючы на ўвазе значнасьць гэтага форуму, мне здаецца, што мы, вучоныя і палітыкі, маглі б разгледзець і пытаньні забесьпячэньня **устойлівага сацыяльна-эканамічнага і экалягічнага разьвіцьця Рэспублікі Беларусь** — краіны з пераходнай эканомікай, якая знаходзіцца ў экстрэмальных умовах з-за наступстваў чарнобыльскай катастрофы». Як Лукашэнка бачыць шляхі забесьпячэньня стабільнасьці ўвесь сьвет мог пераканацца у часе Чарнобыльскай маніфэстацыі 26 красавіка ў Менску і іншых гарадох Беларусі, — сотні скрываўленых, зьбітых АМОНам і міліцыяй удзельнікаў шэсьця і журналістаў, масавыя арышты, вобыскі і сфальсыфікаваныя крымінальныя справы палітычным лідэрам апазыцыйных партый.

**Алеся Сёмуха**

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 78-Х УГОДКАЎ САКАВІКА

## АЎСТРАЛІЯ

### Ў МЕЛЬБУРНЕ

Беларуская супольнасьць Аўстраліі ня мела цесных сувязяў з Бацькаўшчынай, таму Выканаўчы Камітэт Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі палічыў за добрую справу прапанову старшыні Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Ганны Сурмач разам адсьвяткаваць 78-я ўгодкі 25-га Сакавіка 1918 г.

Старшыня А. Груша, зрабіўшы паседжаньне ВК-ту Ф. Рады з актывам усіх беларускіх арганізацыяў у Мэльбурне, уключна з настаяцелем мясцовай БАПЦарквы а. А. Кулакоўскім, Жаночым Камітэтам у Вікторыі і вядучай мясцовай арганізацыяй Беларускім Цэнтральным Камітэтам, зьвярнуўся да ўсіх штатаў і іх арганізацыяў, што ўваходзяць у склад Ф. Рады.

Дэлегацыя ад «Бацькаўшчыны» складалася з старшыні сп-ні Г. Сурмач ды дзьвюх ейных супрацоўніцаў, а менавіта паважаных спадарынь Ніны Петуховай і Таісіі Леанец.

24-га Сакавіка а гадзіне 8.45 раніцы на аэропорце дарагіх гасьцей спаткалі спадарствы А. і Н. Грушы. А. Шнэк, Д. і Я. Стасэвічы, А. і Ф. Корбуты, В. і Г. Шайпакі. Гасьцей спаткалі з бел-чырвона-белым сьцягам, а тры жанчыны ў нацыянальным убраньні ад Жаночага Камітэту ўручылі гасьцям букеты кветак.

Закватараваньне гасьцей узялі на сябе спадарствы Н. і А. Шнэкі ды Н. і А. Грушы, а затрымаліся яны ў В. і Г. Шайпака, А. і Ф. Корбута, Д. і Я. Стасэвіча да іншых. У суботу наступнага тыдня было наладжанае Сьвята ўгодкаў БНР.

У Беларускі Дом людзі пачалі зьяжджацца з ваколіцаў Мэльбурну перад першай гадзінай па абедзе. Старшыня мясцовай арганізацыі Беларускага Цэнтральнага Камітэту сп. Паўла Гуз адчыніў Акадэмію і, прывітаўшы прысутных, паклікаў у прэзыдыюм старшыню ЗБС «Бацькаўшчына» спадарыню Ганну Сурмач і мясцовага доўгадовага грамадзкага дзеяча, удзельніка 2-га Усебеларускага Кангрэсу сп. Ул. Сідлярэвіча. .

Былі зачытаныя прывітаньні, якія надыйшлі як з Бацькаўшчыны, гэтак з іншых краінаў. Віншаваньні былі атрыманыя ад Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі, ад Каардынацыйнага Камітэту, ад старшыні ВК-ту ФРБА ў Аўстраліі Паўла Гуза, ад старшыні Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі М. Колеса, ад БНФронту з подпісамі З. Пазьняка, В. Вячоркі, В. Трыгубовіч, ад імя Нацыянальнага Камітэту па сьвяткаваньні 78-х угодкаў абвешчаньня БНР за подпісам народнага пісьменьніка і змагара за незалежнасьць Беларусі Васіля Быкава, ад рэдактара адзьдзела замежнай сувязі газэты «Голас Радзімы» сп-ні Т. Бандарэнкі, ад сп. Я. Лецкі, ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адзьдзелы Клірленд і Нью Ёрк. Прыйшло віншаваньне з горада Слоніма ад сяброў БНП пад подпісам С. Ёрш і заклік ад маладзёжнамае фракцыі БНФ, віншаваньне з Маладэчні ад спадарства Сьвятланы і Алеся Бухвоставых.

Ад імя БАПЦарквы ды прыхаджанаў, а таксама асабіста прывітаў прысутных а. Міхал Бурнос, які гэтаксама ўручыў гасьцём падарункі ад сябе й Аб'еднаньня.

Пасьля прамоваў старшыні ВК-ту ФРБА ў Аўстраліі сп. Аўгена Грушы выступіла сп-ня Г. Сурмач, якая расказала прысутным пра цяжкое змаганьне з ворагамі нашае Незалежнасьці, аднак, зазначыўшы, што, ня гледзячы на неспрыяльныя абставіны, пасеянае нашымі адраджэнцамі ў 1918-м годзе зерне дае плённы ўсход. Падкрэсьліла яна і прыклад нашай даўгой працы на эміграцыі. Беларускі рух не спыняецца на пачатым шляху ды ўжо не стрымаюць яго нашыя ворагі, як не стрымалі на працягу стагодзьдзяў акупацыі.

Як выраз пашаны, сп-ня Сурмач падаравала Мэльбурнскай грамадзе вялікі беларускі ручнік і нядаўна выдадзеную гісторыю Беларусі. Таксама прывезла сп-ня Сурмач беларускае зямельку ды на беларускім магільніку адведала ўсіх тых нашых беларускіх дзеячоў-адраджэнцаў, хто вечна там спачывае.

Мастацкай часткай кіраваў сп. А. Шнэк. Выступалі А. Груша, жаночы квартэт у складзе Н. Грушы, К. Сасноўскай, А. Корбут і Ніны Шнэк выканаў некалькі песьні ды солё сьпявала А. Корбут. Паўла Гуз прадэклямаваў верш П. Крэчэўскага «Беларускаму народу».

Пасьля агульнага сьпеву Беларускага Нацыянальнага Гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Паўла Гуз запрасіў удзельнікаў Сьвята да пачастунку. Вялікі дзякуй за гатаваньне ды падрыхтоўку пачастунку нашым рупным жанчынам, асабліва Тоні Гуз. Тым часам Н. Груша, А. Корбут і Д. Стасэвіч разыгралі лятарэю, даход зь якое пайшоў на пакрыцьцё расходаў.

У перапоўненай залі пад вясёлы настрой з гасьцямі знаёміліся бліжэй. Ніна Петухова, Таіса Леанец і Ганна Сурмач вельмі шчыра адказвалі на пытаньні ды госьці.

Сьвяткаваньне прадоўжвалася і ў нядзелю 31-га Сакавіка. Сьвятая Літургія пачалася а 10-й гадзіне раніцы ў мясцовай БАПЦаркве ў адправе мясьцовага сьвятара а. Пратапрасьвітэра Аляксандра разам з прыехаўшым на ўрачыстасьць з Адэляйды а. Пратаерэям Міхалом Бурносам з БАПЦарквы Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ды ў суслужэньні двох маладых прыслужнікаў. Хорам кіраваў сп. М. Усьціпаў.

Пасьля Літургіі быў адслужаны Малебен за Беларускі Народ. Ўрачыстасьць працягвалася ў прыцаркоўнай залі. Гуртток «Каліна», які існуе пры Царкве у складзе дзьвюх дачок а. Аляксандра, дачкі царкоўнага старасты сп-тва Т. і В. Русак, дачкі сп-тва Слольскіх ды, на жаль, няведамай мне па прозьвішчы спадарыні, пад акампанэмэнт гітары выконвалі народныя песьні. Хай Вам дзяўчаткі дапамагае Бог! Ды каб другія з Вас прыклад бралі! Асаблівая падзяка сп-ні Тамары Басарановіч, якая зрабіла ўсё неабходная дзеля прыйма гасьцей з Бацькаўшчыны ды сваіх, мясцовых. Разыграная лятарэя пайшла на падарункі гасьцям.

Выступ сп-ні Г. Сурмач выклікаў у прысутных вялікі жаль і смутак за Беларусь. Усе тры госьці далі інтэрвію для радыё, якое трансьлюе перадачы на ўсіх мовах.

Сп-ня Г. Сурмач і яе спадарожніцы вельмі дзякавалі бэларусам Мэльбурну за прыёмо. Напрыканцы настаяцель пэрсанальна падараваў кожнай з гасьцей франтон нашае сьвятое Царквы ў Мэльбурне.

На Урачыстай Акадэміі быў аднагалосна прыняты праэкт Рэзалюцыі, апрацаваная сп. П. Гузам. Гэтая Рэзалюцыя, падпісаная Сьвяточным Прэзыдыюмам, разашлецца ва ўсе аўстралійскія ўстановы і на Беларусь.

3-га Красавіка 1996 г. дарагія госьці зь Менску выехалі ў Сыдней.

**Паўлюк Дуброўскі**

### Ў СЫДНЭІ

Сьвяткаваньне 78-х угодкаў БНР адбылося у Сыднэі ў нядзелю 7-га красавіка. Урачыстасьць была адложана на гэтую дату дзеля прыезду ў Аўстралію Старшыні ЗБС «Бацькаўшчына» Ганны Сурмач і яе дзьвюх супрацоўніцаў.

Распачалося Сьвята ў Гомэбушскай Праваслаўнай Царкве, дзе пасьля Літургіі і Агульнай Споведзі а. Ігар адслужыў Малебен за Беларускі Народ. Гімнам «Магутны Божа» закончылася ўрачыстая служба ў Царкве. З Царквы Сьвята перанеслася ў салю Бел. Культурна-Грамадзкага Клюбу, дзе старшыня Клюбу М. Лужынскі адкрыў урачыстую частку кароткім уступным словам, у якім пералічыў усе акты абвешчаньня Незалежнасьці ад незабыўных дзён 25-га Сакавіка. Успомніў абвешчаньне БССР 1.1.1919 г., пацьверджаньне пастановаў Рады БНР Другім Усебеларускім Кангрэсам 28.6.1944 г. і ўрэшце «папяровае» абвешчаньне Рэспублікі Беларусь 27.7.1991 году.

На заканчэньне Міхась Лужынскі прывітаў католікоў традыцыйным ХРЫСТОС УВАСКРОС і выказаў спадзяваньне, што ўваскрэсьне й Беларусь. Даклад на тэму дня зрабіў рэдактар й дыктар Беларускага Радыё ў Сыднэі сп. Вячаслаў Эльканові̌ч. Ён прааналізаваў бел. адраджэнскі рух ад пачатку нашага стагодзьдзя да цяпер.

Вядучы прадставіў нашых гасьцей Ганну Сурмач, Ніну Петухову, Таісу Леанец і Лялю Варэцу — мастачку зь Менску, якая аднаўляе постаці дзяржаўных мужоў і культурных дзеячоў нашага мінулага.

Міхась Лужынскі прадстаўляючы Ганну Сурмач назваў яе першай лэйдзі Беларусі. Алесь Алехнік і М. Лужынскі зачыталі некалькі прывітальных лістоў і тэлеграмаў з усіх канцоў сьвету.

Затым было дадзенае слова сп-ні Сурмач. Яна зрабіла цікавую справаздачу зь дзейнасьці «Бацькаўшчыны», пацьвердзіла існаваньне гурткоў гэтае арганізацыі ва ўсіх краінах сьвету, дзе пражываюць беларусы. Сп-ня Сурмач падкрэсьліла цяжкасьці працы першай сусьветнай арганізацыі беларусаў дзеля адмоўных адносінаў урадавых дзейнікаў — але, акцэнтавала Ганна Сурмач, нашая Бацькаўшчына — жыве і будзе жыць. Адсьпяваньнем нац. гімну закончылася афіцыяльная частка.

Пачаўся сьвяточны абед. Тут былі посныя стравы, а таксама ўсьміхаліся печаныя каўбаскі ды іншыя смакалыкі. Падзяка за багаты стол належыцца Валі Пляхоцкай, Мані Супрунчык і Вандзе Марчэнка. Была разыграная лятарэя, а Міхась Лужынскі сабраў каля тысячы даляраў на абсталяваньне дэнтыстычнага шпіталю ў Менску.

У шчырай сяброўскай атмасфэры бліскавічна бяжыць час. Радасны дзень з радаснай аказіі. Да сустрэчы на наступнай зборцы, хоць ня радаснай, бо 28-га красавіка будзем адзначаць 10-я ўгодкі Чарнобыльскай Катастрофы.

**М.Л.**

### Ў ПЭРЦЭ

Сёлета, угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га Сакавіка 1918-га году, беларусы Пэрту і ваколіц адзначалі 23 сакавіка ў Беларускім Народным Доме ў Байсвотэр. Вітаў прысутных і падзякаваў за выкананьне нацыянальнага абавязку старшыня Б.А. у З.А. сп. Міхась Раецкі (малодшы).

Па адыграньні нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», былі прачытаныя прынагодныя вітаньні: зь Беларусі ад Беларускага Народнага Фронту, Беларускага Аб'еднаньня — Паўднёвай Аўстраліі, Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі, БАЗА – Нью Ёрк і БАЗА — Кліўлянд – ЗША.

Затым былі зроблены два даклады: па-беларуску — сп. Р.М. і ангельску — сп. Міхась Раецкі (малодшы).

Па заканчэньні афіцыйнай часткі адбыўся пачастунак, у часе якога была праведзеная зборка на «Дар 25-га Сакавіка». Гэтаксама прысутныя выказалі абурэньне і недавер прэз. А. Лукашэнку і ягонаму ўраду.

25.3.1996 г.
Кэнінгтон – Аўстралія

**Р.М.**

*З жыцьця ў Чыкага*

## ВЫСТАЎКА ЭТНІЧНЫХ ЖАНОЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

4-га сакавіка сёлета ў Стэйтавым будынку Чыкага была наладжаная губэрнатарам выстаўка этнічных групаў у гонар этнічных жаночых арганізацыяў у Чыкага. Прыняло ўдзел 50 этнічных групаў.

Адказнай за стэнд арганізацыі: Беларуска-Амэрыканскія Жанчыны ў Чыкага была сп-ня Вера Рамук. Сп-ні Ірэна Пануцэвіч і Ніна Кулагін дапамагалі пры ўладжаньні беларускага стоішча.

На стэндавым стале былі выкладзеныя фатаграфіі зь дзейнасьці Беларускага Каардынацыйнага Камітэта ў Чыкага, лялькі ў нацыянальным строі ды зь лёну, кошык зь вялікоднымі яйкамі-маляванкамі, шкатулкі інкруставаныя саломкай, дэкаратыўныя талеркі, вышыўка, кнігі, часопісы ды іншыя вырабы.

Наведальнікі цікавіліся беларускім стэндам, што вызначаўся прыгожымі экспанатамі, даведкамі пра Беларусь, ды пыталі як запрэнумэраваць "Belarusian Review".

Напрыканцы дня губэрнатар Джым Эдгар са сваёй спадарыняй абыйшоў усе стэнды да сфатаграфаваўся з арганізатаркамі паасобных стэндаў.

Сп-ня Вера Рамук падрыхтавала і ўручыла губэрнатару даведку пра прафэсыйную дзейнасьць беларуска-амэрыканскіх жанчын у штаце Іліной.

Губэрнатар Джым Эдгар са сваёй спадарыняй падзякаваў лістоўна сп-ні Веры Рамук за інфармацыі пра дзейнасьць беларуска-амэрыканскіх жанчын у Іліной, за ўладжаньне стэнду і прыслаў фатаграфію, а таксама выслаў падзяку і фатаграфіі сп-ням Ірэне Пануцэвіч і Ніне Кулагін.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ПАБАЧ З ЧЫКАГСКІМІ ГМАХАМІ — ВОБРАЗЫ БЕЛАРУСІ

***(Выстава жывапісных твораў мастака Юзафа Пучынскага)***

Вядомы беларускі мастак Юзаф Пучынскі нядаўна эміграваў у ЗША і цяпер жыве ў Чыкага. 18-га сакавіка ў Вялікім холе Чыкагскае Мэрыі, у Daley Center адкрылася выстава жывапісных твораў Юзафа Пучынскага, арганізаваная намаганьнямі Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, спадарынь Веры Рамук і Розы Фарыны, мэнаджэра з City of Chicago Department of Cultural Affairs.

На выставе экспануюцца пэйзажы і партрэты Юзафа Пучынскага, напісаныя ў розныя гады. Тут і маляўнічыя выявы роднае Узьдзеншчыны, і «Возера ў Нясьвіжы», і «Вясна ў Лагойску», і «Менск, 1944 год», і «Касьцёл у Нясьвіжы», і «Летні дзень», і «Коні ля ракі» ды іншыя. Прываблiваюць увагу гледачоў такія творы мастака, як «Беларускі матыў», «Царква», «Дзяўчынка з Рудні». Адухоўленыя твары звычайных беларусаў у такіх партрэтах Юзафа Пучынскага, як «Бабуля Наталя», «Маладая жанчына», «Партрэт М. Карпенкі», «Студэнт» і іншых. Верны сваёй творчай манэры застаўся і мастак і цяпер, калі ён малюе вывы Чыкага — «Унівэрсытэт Лаёла», «Зіма ў Чыкага».

Сваю вельмі вядомую карціну — «Партрэт Янкі Купалы» Юзаф Пучынскі падарыў Чыкагскаму Беларускаму Каардынацыйнаму Камітэту.

Выстава прысьвечана чарговай гадавіне 25-га Сакавіка — Дню Незалежнасьці Беларусі.

**Ванкарэм Нікіфаровіч**

## 25 САКАВІКА Ў ПАРАФІІ СЬВ. ЮРАГА

Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага ушанавала Дзень Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 24-га сакавіка.

У Беларускай Царкве Сьв. Юрыя настаяцель а. Пратаіерэй Дзімітры адслужыў Малебен за Беларускі Народ, пад час якога пры алтары трымалі амэрыканскі і бел-чырвона-белы сьцягі Пётр Нягода і Даніла Шфэфэль.

Урачыстая праграма сьвяткаваньня адбылася ў залі БАНРады і пачалася Амэрыканскім гімнам.

Пасьля былі зачытаныя прывітаньні ад Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» з Бацькаўшчыны ды беларускіх арганізацыяў дыяспары.

Рэфэрат на тэму дня зачытаў сп. Мікалай Прускі — выдавец газэты «Беларускі Дайджэст» у Амэрыцы. Ён дэталёва ахарактарызаваў сёньняшні палітычны стан на Бацькаўшчыне, сынтэзуючы падзеі, якія заграждаюць Беларускай дзяржаве магчымай стратай паўторна здабытага Беларускім Народам суврэнітэту ў 1991-м годзе.

Урачыстасьць закончылася Беларускім Нацыянальным Гімнам.

**Мікалай Латушкін**
**Сакратар БАНРады ў Чыкаго**

## МАЎЧАНЬНЕ НА РЭПРЭСІІ Ў БЕЛАРУСІ

***(Скарочаны пераказ артыкулу Р. Новака з газэты "Washington Post" 8-га траўня 1996 г.)***

Юры Хадыка, даўні змагар за свабоду ў Беларусі, ад 27 красавіка знаходзіцца ў турме за пратэст супраць суінтэграцыі яго краіны з Расеяй. Рэакцыя на гэтыя падзеі Ураду Злучаных Штатаў — сарамлівае маўчаньне, — зусім не пратэст. Былы пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц, які падаў у адстаўку з сваёй пасады ў 1994 годзе будучы нязгодным з палітыкай патурньня адміністрацыі Клінтана Менскаму рэжыму, сказаў мне, што мэтаю ізаляцыі Хадыкі ёсьць «нэўтралізацыя далейшых выступленьняў апазыцыі супраць Лукашэнкавай палітыкі далучэньня да Расеі ва ўзноўленым Савецкім Саюзе».

З выкрытых дакумэнтаў і дыпляматычных крыніц стала зразумела, што Прэзыдэнт Клінтан і Дзяржаўны Сакратар Крыстафар Уорэн далі «зялёнае сьвятло» Расейскаму Прэзыдэнту Барысу Ельцыну, які зараз змагаецца за сваё перабраньне, праводзіць рэаб'яднаньне былых складовых частак Савецкага Саюза. Прыняўшы такі падыход, ці будзе адміністрацыя Клінтана ўмешвацца, калі Беларусь падаўляе нязгодных? Адказ — не.

Лукашэнка дамагаецца поўнай інтэграцыі з Крамлём, кіраваным адным з Ельцынскіх аўтарытарных канкурэнтаў па прэзыдэнцкай кампаніі, але пагодзіцца і на Ельцыным кіраваную Расею, прынамсі цяпер. Неўраўнаважаны беларускі прэзыдэнт, вядома, быў незадаволены, калі 20.000 тысяч людзей выйшлі 2 красавіка ў Менску на дэманстрацыю супраць падпісанага ў то жа дзень паміж Лукашэнкам і Ельцыным пакту аб'яднаньня Беларусі з Расеяй. Калі тыя самыя апазыцыйныя сілы арганізавалі ў Менску 26 красавіка яшчэ адную трыццацітысячную дэманстрацыю, Лукашэнка сарваўся. Удзельнікі маршу натыкнуліся на заслоны «спэцыяльных войскаў». Дзесяткі мірных дэманстрантаў былі зьбітыя на вуліцах, больш за 200 былі арыштаваныя. Бальшыня была асуджаная «адміністрацыйнымі судамі» да трох-дзесяці дзён пазбаўленьня волі.

Да Юрася Хадыкі прымянілі спэцыяльную тактыку. 27 красавіка яго арыштавалі і трымалі ў ізаляцыі тыдзень, не дапускаючы сувязі з адвакатамі і сям'ёй. Урэшце 4 мая яму было выстаўлена абвінавачваньне. Нягледзячы на хадайніцтва сямі выбітных дзеячоў (сярод іх чатыры дэпутаты парляманту), якія гарантавалі ягонае зьяўленьне на судзе, Хадыку пакінулі ў турме пакуль будзе працягвацца «расьследаваньне» ад двух да шасьці месяцаў.

Сын Хадыкі, Аляксей, прадстаўнік ў Беларусі ад Вашынгтонскага Krieble Institute, 2 мая перадаў па каналах E-mail запыт у галоўную штаб-кватэру Інстытута: «Ці бачыце вы магчымасьць, каб Пасольства ЗША ў Беларусі зрабіла ноту пратэсту?» Пакуль выглядае, што не.

Калі Клінтан, сустракаючыся апошні раз з Ельцыным, мог не запратэставаць супроць разьні ў Чачэні, дык не складана яму і незаўважыць рэпрэсіі ў Беларусі. Намер Амэрыканскага прэзыдэнта — перавыбраць Ельцына на наступны тэрмін, а тады ўжо турбавацца пра праблемы ў былым Савецкім Саюзе.

# ЦІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСІ ДАПАМОГА СУСЬВЕТНАГА БАНКУ?

Інтэграцыйная актыўнасьць беларускага прэзыдэнта Лукашэнкі, яго ірацыянальная эканамічная палітыка, заявы пра «рынкавы сацыялізм» і практыка жорсткага адміністраваньня не спрыяюць разьвіцьцю ўзаемадачыненьняў Беларусі з міжнароднымі фінансавымі інстытуцыямі Захаду.

«Беспрэцэдэнтным выпадкам» называюць журналісты і аналітыкі нядаўняе рашэньне Рады дырэктараў Сусьветнага Банка часова спыніць падрыхтоўку новых праэктаў у Беларусі. З усіх краінаў былога СССР толькі ў дачыненьні да Беларусі было прынятае незвычайнае ў практыцы гэтай інстытуцыі рашэньне.

На працягу 1993-94 г.г. Сусьветны Банк выдзяліў Беларусі дапамогу ў суме 170 млн. даляраў у форме трох мэтавых пазыкаў: інстытуцыянальнай, рэгабілітацыйнай і на разьвіцьцё лясное гаспадаркі. Да канца 1994 г. Беларусь засвоіла каля 116 млн. даляраў па ўсіх згаданых праэктах.

На працягу 1995 г. толькі дзьве дзяржавы СНГ не атрымалі ані даляра ад Сусьветнага Банка — ахопленыя полымем грамадзянскае вайны Таджыкістан і «калыска рынкавага сацыялізму» Беларусь. Тым часам, крэдытная дапамога Сусьветнага Банка склала: для Расеі — 1 741 млн. дал.; Украіны — 646 млн. дал.; ажно да найменшага паказчыка па СНД для Туркменістану — 25 млн. дал.

Паказчык агульнага аб'ёму крэдытаў банка на душу насельніцтва ў Беларусі самы нізкі ў параўнаньні з іншымі краінамі СНД.

Адкрыцьцю крэдытнае лініі Сусьветнага Банка для рэалізацыі распрацаваных праграмаў у Беларусі папярэднічала вывучэньне заходнімі экспэртамі эканамічнае сытуацыі ў краіне й выпрацоўка стратэгіі дапамогі Беларусі, што было адлюстравана ў складзеным у 1992 г. базавым дакумэнце пад назовам Мэмарандум па эканоміцы Беларусі.

На працягу наступных гадоў спэцыялісты Сусьветнага Банку падрыхтавалі пляны крэдытаваньня чатырох новых праграмаў — па ўтылізацыі шкодных выкідаў, проціпаводкавае абароны на Прыпяці, разьвіцьці нафтаперапрацоўкі і падтрымкі прыватных прадпрыемстваў. Рэалізацыя згаданых праэктаў не распачалася па віне беларускага боку.

Беларусь не выканала шэраг папярэдніх умоваў, зь якіх важнейшымі застаюцца акцыянаваньне прадпрыемстваў, ажыцьцяўленьне праграмы прыватызацыі, дэмакратызацыя банкаўскае сыстэмы.

Мітусьня й непрадбачаныя захады Лукашэнкі ў сфэры эканомікі не дазволілі спэцыялістам Сусьветнага Банку на працягу 1995 г. прыняць новую стратэгію дапамогі Беларусі. Па віне Беларусі не пачалося паступленьне крэдытных сродкаў на разьвіцьцё нафтаперапрацоўчае прамысловасьці. Як ведама, фактычна адмовіўшыся ад дапамогі Сусьветнага Банку Беларусь правяла акцыянаваньне нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў з удзелам расейскага капіталу.

Урэшцэ, Сусьветны Банк спыніў працу над новымі праэктамі для Беларусі. Дзейнымі пакуль што застаюцца праграмы рэалізацыі грантаў ў галіне прававое рэформы і на мадэрнізацыю бугальтэрскага ўліку.

Напрыканцы красавіка меўся адбыцца візыт у Менск галоўнага дарадцы Сусьветнага Банку па Беларусі Джона Гансэна з мэтай падрыхтоўкі мэмарандуму па эканоміцы Беларусі. Прадстаўніцтва Сусьветнага Банку ў Менску працуе надалей. Дзеля працягу су-

(Працяг на б. 5)

# «ВЫБАР» У АБЛОЗЕ

Мейсцам брутальных антыбеларускіх і антыдэмакратычных акцый на працягу колькіх апошніх гадоў стаўся горад Віцебск. Газэта «Беларус» інфармавала чытачоў пра няспыннае цкаваньне гарадзкімі ўладамі беларускае незалежнае газэты «Выбар» (гл. «Беларус», #426, 1995) ды нядаўні факт зьбіцьця гарадзкой міліцыяй сябра Сойму БНФ А. Янушкоўскага, на што Фронт зрэагаваў заявай «Аб палітычна-крымінальнай акцыі ў Віцебску» («Беларус», #432, 1996). 15-га сакавіка віцебская міліцыя затрымала й даставіла ў пастарунак пяцёх актывістаў БНФ за арганізацыю пікету зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ў абарону Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. На аднаго з удзельнікаў (А. Мудрычэнку) зьбіраюцца ўзбудзіць крымінальную справу.

Апошнія паведамленьні зь Віцебску сьведчаць пра далейшы працяг антыбеларускай і антыдэмакратычнай істэрыі ў горадзе. З падачы гарадзкіх уладаў у судох Віцебску разглядаецца справа аб высяленьні газэты «Выбар» з памешканьня, якое рэдакцыя атрымала ў 1991-м годзе ў час атмасфэры дэмакратычнае адлігі. «Лукашызм» усё вяртае на ранейшыя пазыцыі.

Газэта ўжо доўгі час, цаной вялікага напружаньня й грамадзянскай мужнасьці рэдакцыі выходзіла ў абложых умовах. На пачатку ўлады забаранілі выдавецкім прадпрыемствам гораду друкаваць газэту. У кастрычніку 1995-га году быў адключаны рэдакцыйны тэлефон. Абласное прадпрыемства «Саюздрук» адмовілася распаўсюджваць газэту на тэрыторыі Віцебшчыны ў 1996 годзе. На думку рэдактара газэты сп. Барыса Хамайды яшчэ раней рэдакцыйны тэлефон праслухоўваўся, урэшце адключэньне сталася рэакцыяй на ўзрослую актыўнасьць чытачоў газэты. *«Апошнім часам тэлефоны не змаўкалі.* — паведаміў сп. Б. Хамайда. — *Выбаршчыкі задавалі адно і тое ж пытаньне: калі пойдзе ў адстаўку Лукашэнка? Даводзілася адказваць, што асабіста мы за яго не галасавалі. Што да падманутых, дык, як кажуць, «за что боролись, на то и напоролись».*

Функцыю рэдакцыйнага тэлефону стаў выконваць хатні тэлефон рэдактара.

У студзеньскім нумары «Выбара», які выйшаў у лютым, быў выдрукаваны верш Славаміра Адамовіча «Убей президента». Гэтая публікацыя сталася каталізатарам далейшых падзеяў.

Міліцыянты пачалі затрымваць распаўсюджвальнікаў і канфіскоўваць газэту. 26 і 27 лютага былі затрыманыя супрацоўнікамі Чыгуначнага раённага аддзелу міліцыі й дастаўленыя на допыт у Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі (КДБ) Юры Мароз і сябра БНФ Сяргей Кушнароў.

28 лютага з газэтамі затрымалі старшыню Рады БНФ «Адраджэньне» Кастрычніцкага раёну г. Віцебска Уладзімера Плешчанку і паўторна Ю. Мароза. З міліцэйскага пастарунку затрыманых даставілі у КДБ, дзе некалькі гадзінаў дапытвалі. Афіцыйных папераў на допыт чэкісты ня мелі.

На наступны дзень у памяшканьне рэдакцыі зьявілася апэратыўная група супрацоўнікаў КДБ на чале з старшым сьледчым па асабліва важных справах сьледчага аддзелa УКДБ па Віцебскай вобласьці маёрам Казлоўскім, які прад'явіў пастанову пракуратуры РБ пра ўзбуджэньне крымінальнай справы з-за публікацыі вершу «Убей президента» ў нелегальнай газэце «Лукашэнская правда». Паводле заключэньня пракуратуры ў вершы «знаходзіцца заклік да зьдзяйсьненьня тэрарыстычнага акту ў дачыненьні дзяржаўнага дзеяча Рэспублікі Беларусь у сувязі зь яго дзяржаўнай дзейнасьцю». З прычыны надрукаваньня вершу ў «Выбары» намесьнік Генэральнага пракурора Беларусі Кандрацьеў санкцыянаваў вобыск у памяшканьні рэдакцыі, кватэрах рэдактара і распаўсюджвальнікаў газэты.

Пасьля трохгадзіннага перагляду рэдакцыйных папераў былі канфіскаваны 63 асобнікі газэты, кампутар і прынтар.

Таго ж дня вобыскі правялі на кватэрах У. Плешчанкі, Ю. Мароза і рэдактара Б. Хамайды. Шукалі зброю й падпольную друкарню. На кватэры сп. Б. Хамайды сканфіскавалі матар'ялы студзеньскага нумару газэты, а рэдактара даставілі ў КДБ, дзе дапытвалі пра крыніцы фінансаваньня й месца друку газэты.

Сьледства па дадзенай справе вядзе сьледчы па асабліва важных справах КДБ РБ Сакольчык. Аўтар вершу Славамір Адамовіч арыштаваны й пасаджаны ў сьледчы ізалятар КДБ у Менску. Супрацоўнікі газэты пакуль што кваліфікуюцца як сьведкі.

Дзяржкамдрук Беларусі зьвярнуўся да Генэральнага пракурора з афіцыйным запытам даць прававую ацэнку дзеяньням рэдактара «Выбара» й распаўсюджвальніку газэты. На час напісаньня артыкулу афіцыйнае абвінавачаньне не выстаўленае, рэдакцыйная тэхніка застаецца канфіскаваная. «Лукашызм» абкружыў газэту «Выбар» «трайной пятлёй» — судовай справай на высяленьне з рэдакцыйнага памяшканьня, пагрозай пазбаўленьня выдавецкае ліцэнзіі й ўзбуджэньня крымінальнае справы.

Мэханізм задушэньня адзінай беларускай незалежнай газэты ў Віцебску падрыхтаваны да дзеяньня.

Б.В.

## ЦІ ПАТРЭБНА ...

(Пачатак на б. 4)

працоўніцтва з Сусьветным Банкам патрэбна воля беларускага кіраўніцтва.

Апошнія ўказы Лукашэнкі пра фактычную нацыяналізацыю валютнае біржы, далейшае неажыцьцяўленьне, зацьверджанай колькі год таму праграмы прыватызацыі, жорсткая рэгляментацыя дзейнасьці недзяржаўнага акцыянэрнага банкаўскага капіталу ставяць пэрспэктывы дапамогі Сусьветнага Банку для Беларусі пад сумненьне.

Ю.В.

# ЭПОХА ДЖАХАРА ДУДАЕВА



22-га красавіка ў часе расейскага ракетнага ўдару загінуў Прэзыдэнт Чачэнскае Рэспублікі Ічкерыя і кіраўнік збройнага змаганьня за незалежнасьць Джахар Дудаеў. У Рэспубліцы прайшоў трохдзённы траўр. Пераемнікам Джахара Дудаева прызначаны Зелімхан Яндарбіеў, нядаўна пашыраныя весткі пра сьмерць якога ня спраўдзіліся.

"Зорка" зьніцця Джахара Дудаева ўзышла ў эпоху развалу расейскае турмы народаў у форме СССР ды пачатку эпохі вольнасьці, на якую, аднак, сёньня насоўваецца эпоха расейскага каляніяльнага рэваншызму ды супраціўнага апошняму актывізацыі нацыянальна-вызвольнага працэсу. Сучасны расейскі рэваншызм у той ці іншай ступені пагражае незалежнасьці ўсіх былых маладых нацыянальных дзяржаваў, утвораных пасьля распаду былога СССР. Тэрыторыяй апрабацыі «мірных» мэтадаў акупацыі ёсьць сёньня Беларусь.

Джахар Дудаеў сымбалізаваў нязломнасьць вызвольных памкненьняў чачэнскага народу і дэманстраваў усяму сьвету й іншым загроджаным народам досьвед радыкальных мэтадаў супраціву. Пагібель Джахара Дудаева на полі змаганьня ўзводзіць яго ў пастаць у духовы пантэон Каўказу, зь якога будзе сьвяціць натхняльнай зоркай для сёньняшняга й будучых пакаленьняў усіх горскіх народаў.

Аналізуючы разьвіцьцё вызвольных ідэяў нерасейскіх народаў на гэапалітычнай прасторы былога СССР, можна гіпатэтычна гаварыць пра набліжэньне эпохі Джахара Дудаева ў сэнсе ідэёвае й практычнае радыкалізацыі згаданых руху. Усё гэта ў поўнай меры стасуецца і да Беларусі.

Узьнясеньне забітага расейцамі Джахара Дудаева на Духовы П'едэстал зусім не выпадкова акцэптуецца сёньня міжнароднай супольнасьцяй.

Памінальныя імшы па Джахары Дудаеве адбыліся ў некаторых касьцёлах Польшчы і Літвы. У Вільні паведамлена пра праэкт усталяваньня помніка палегламу Чачэнскаму лідэру. У Львове імя Джахара Дудаева надалзенае былой вуліцы Лермантава. Ідэя Джахара Дудаева мацуецца ў абрысах вечнасьці.

Ю.В.

# «МІРОН» ЗМАГАЕЦЦА

15-га сакавіка ў Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у Лёзьне, райцэнтры Віцебскае вобласьці, што блізу мяжы з Расеяй, невядомы сьмяльчак, які падпісваецца «Мірон», павесіў на вяршак 40-мэтравга коміну райбыткамбінату бел-чырвона-белы сьцяг.

Дарэчы, тое ж самае «Мірон» зрабіў раней, у афіцыйны Дзень незалежнасьці Рэспублікі Беларусь 27-га ліпеня, пасьля чаго беспасьпяховымі пошукамі невядомага займалася міліцыя й КДБ.

Апошнім разам да сьцягу было прымацаванае пісьмовае пасланьне:

**Калі ты беларус, падыміся з калень. Досыць ганьбіць сябе перад памяцьцю продкаў! Калі ты беларус — вярні памяць сваю, Вярні сьцяг свой, і «Пагоню» і мову! Жыве Беларусь!**

**Мірон.**

Лёзьненская міліцыя кінулася ў пошукі. Пад падазрэньне трапілі былы капітан міліцыі Мікалай Ягорчанка й шафёр Уладзімер Собалеў. Падставамі было тое, што першы, у часе службы ў міліцыі залазіў на трубу й здымаў вывешаны сьцяг 27-га ліпеня, а на доме другога быў прымацаваны флюгэр бел-чырвона-белага колеру. Пасьля допытаў у пастарунку абодва былі выпушчаныя.

(«Свабода»)

# БЕЛАРУС У ЧАЧЭНСКІМ АТРАДЗЕ

У часе адной зь нядаўніх прэс-канфэрэнцыяў кіраўнікоў расейскіх спэцслужбаў была агалошаная інфармацыя пра магчымае знаходжаньне ў складзе атраду чачэнскіх партызанаў, які правёў надзвычай удалую вайсковую апэрацыю ў расейскім сяле Першамайске, быў беларус па прозьвішчу Грабнюк. Больш падрабязных інфармацыяў не падавалася.

КДБ Беларусі ў вадказ пасьпешліва накіраваў запыт у фэдэральную службу контрразьведкі Расеі на прадстаўленьне дадатковае інфармацыі.

Пры гэтым, КДБ Рэспублікі Беларусь аніяк не рэагавала й не рэагуе на паведамленьні розных сродкаў інфармацыі пра дзейнасьць на тэрыторыі Беларусі расейскіх прафашысцкіх арганізацыяў ды факты ўдзелу грамадзянаў Беларусі ў баявых дзеяньнях у складзе расейскіх вайсковых славяна-фашысцкіх фармаваньняў у Прыднястроўі, Босьніі ды ў той жа Чачні.

Згаданая «пасьпешлівасьць» лішні раз выразна сьведчыць каму КДБ Беларусі служыць і філіяй якое краіны ён па-сутнасьці зьяўляецца.

Беларусу Грабнюку, калі гэткі сапраўды змагаўся ў шэрагах чачэнскіх змагароў за волю, трэба асьцерагацца свае, падняволенае расейцамі Бацькаўшчыны ды цьвярдыні расейскага імпэрыялізму на ейнай тэрыторыі пад назовам КДБ Рэспублікі Беларусь.

Н.

Вітаем нашых супрацоўнікаў Лявона і Ірыну Юрэвічаў з нараджэньнем дачкі.
Рэд. «Беларуса»

# СЯРОД СВАІХ ЛЮДЗЕЙ



*У гасьцёх у Надзеі і Янкі Запруднікаў*

Зімовай казкай здалося мне маё падарожжа да землякоў у Амэрыку. Перад гэтым, праўда, давялося пахвалявацца. Найперш з-за таго, што амэрыканская амбасада нечакана перапыніла выдачу візаў. Нешта там па фінансах не паразумеліся Прэзыдэнт з Кангрэсам. Балазе, як у нас. не перасварыліся. Але ўсё адно мы вымушаны былі на добрага паўмесяца затрымацца і ня трапілі туды на Каляды, як меркавалася, і асабіста мне было вельмі выгодна, бо якраз ва ўнівэрсытэце канікулы. А так даводзілася зрывацца з вучобы самапасам, але дзе-ж ты ўтрываешь, калі заманулася ехаць і хіба палезе тая навука ў галаву, калі думкі і пачуцьці разьвярэджаны ўяўленьнем пра зваблівую і зусім не такую, як наша, краіну...

I вось ужо колы самалёта разьвітальна стукочуць-грукочуць па ўзлётнай паласе, магутны мэталёвы птах лёгка ўздымаецца ў паветра і нясе-пагойдвае нас туды, дзе, здаецца, няма ні халадоў ні завірухаў, а раскашуюць чырвоныя прыгожыя кветкі, сьпяваюць на дрэвах вялікія чубатыя птушкі, голенькае нэгрыцятка забаўляецца з апранутай у штонікі малпачкай ...

Здрыганулася, але ўжо амэрыканская зямля пад коламі самалёта. На лётнішчы чамусьці, як і ў нас, холадна і золка. Але як-жа захацелася птушкай затрапятацца, калі ўбачылі, як вясновым сонейкам праменіліся ўсьмешкі на тварах у Жоржа Навумчыка і Валодзі Літаровіча. Ці-ж гэта не найлепшы падарунак нам пасьля такога доўгага пералёту. Мы дорым ім пахучы нарачанскі хлеб і «Белавежскую», якую нашы сустрэчнікі ўважаюць за самы гаючы напой на сьвеце. Дык паздароў, Божа, Вашыя дні і ўмацуй у Вашых грамадзкіх клопатах! Бо-ж дастаецца людзям, асабліва Жоржыку, якога так ласкава тут называюць. I тут, і на Беларусі, куды ён прыязджае не сам па сабе, а арганізе людзей на вандроўкі, развозіць па шпіталях сабраныя ўсёй саўтрывэрскай беларускай грамадой лекі. А цяпер яшчэ задумалі дапамагаць і школьнікі, якія нярледзяць ні на што, застаюцца трывалымі ў беларускасьці...

Едзем да нашых гаспадароў. Майго спадарожніка скакуна-весялуна Міколу Котава забірае сям'я Мядзьвяткаў. Казаў, што пачуваўся там па-царску. Дзіва што? У сябе на радзіме, хоць і зьяўляецца класным спэцыялістам, Мікола так і ня здолеў узьбіцца на больш-менш прыстойнае чалавечае жытло, жыве, маючы за плячыма досыць важкую ношку пражытых гадоў, у цесным інтэрнацкім пакойчыку. А тут — харомы. А да таго-ж адпаведнае сталаваньне і ўсё іншае.

На ўсе гэта і мне наракаць не даводзілася. Мела сапраўдную радасьць спачатку гасцяваць у цудоўных людзей, якія перад гэтым жылі паасобку, але ў мінулым годзе ўзялі шлюб — у Янкі і Надзі Запруднікаў. Трэба падзівіцца і павучыцца, як умеюць людзі хораша і ўзаемарадасна наладзіць сваё жыцьцё. Уражвае Янкава энэргія і працавітасьць. Увесь быў паглынуты працай над завяршэньнем кнігі «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях», якая ўжо выйшла па-англійску і маецца сёлета выйсьці ў Беларусі па-беларуску. Паралельна нястомны Янка бярэ ўдзел у падшліфоўваньні «Беларуска-ангельскага слоўніка», складзенага сп-няй Валянцінай Пашкевіч, пра якую я столькі добрага чула ад свайго бацькі. А мо гэта, думалася, так імпэтна Янку працуецца з-за таго, што побач зь ім такая ўважлівая клапатлівіца, абаяльная і артыстычная Надзея. Гармонічна яны ўмеюць захоўваць сябе і ў штодзённым побыце, і ў сьвяточным настроі, за бяседным сталом, у песьнях і танцах. Гледзячы на іх, пераконваешся, што маладосьць гэта ня так гады, як стан душы, адчуваньне сэнсу і паўнаты жыцьця, уменьне адчуваць ад усяго радасьць, а часамі, калі гаворка заходзіла пра Беларусь, і сум, маркоту ад пераживаньня за нашы злыбеды, наша няхлюйства і самаплюйства...

Потым маёй амэрыканскай мамай на два тыдні стала Жэня Дубяга, а месца таты заняў яе паважны муж Алег, якога мы называлі Графам. Гэтыя слаўныя людзі зрабілі ўсё магчымае, каб я ў іх чулася нават лепш чым дома.

Было ў нас і шмат іншых сустрэч і знаёмстваў. Уразілі сваёй дабрыняй Ліза і Лёня Літаровічы. Цікава было назіраць за старэйшымі Азаркамі: спадар Янка такі памяркоўны, лагодны, разважлівы, ураўнаважаны, а ягоная жонка — імпэт, тэмпэрамэнт, імклівасьць. Але гэтая адрознасьць не перашкаджае ім ладзіць супольнае жыцьцё, а, наадварот, нібы служыць для гэтага жыцьця дадатковым стымулам, крыніцай уцехі і радасьці. Хацелася, ды, на жаль, ня собіла, пабачыць іхніх унукаў, якія, як мне казалі, ня страчваюць сваёй нацыянальнай адмэтнасьці і ўзгадоўваюцца добрымі беларускімі хлопцамі. Я прыпрацоўваю ў садку, вучу маленькіх англійскай мове і было-б цікава параўнаць нашых і амэрыканскіх беларусікаў.

Вось яшчэ адзін арыгінальны, з прыкметамі таленту гумарыста-сатырыка чалавек Адольф Субота — увесь час іранізуе, падсьмейвае. А Браніслаў Даніловіч больш мяккі, чульлівы. Гэта-ж уласьціва і Міхасю Сеньку: кранаді душу слёзы, якія я бачыла ў ягоных вачох, калі размова заходзіла пра Бацькаўшчыну.

Праз увесь час побыту ў ЗША мяне не пакідала дзіўнае адчуванне: з аднаго боку вялізныя, напакаваныя самымі рознымі таварамі крамы і супэрмаркеты, а з другога — усюды свае людзі, свая мова, нават свая квашаная капуста. І непадробная шчырасьць пачуцьцяў. Дзіву даешся, як гэта столькі добрых людзей сабралася ў адным месцы. Усе жывуць нібы адна сям'я. І мы, чужыя, па сутнасьці, людзі, былі, як родныя, прынятыя ў іх асяродзьдзе. Асабліва кранальная была разьвітальная вячэра. Уклала ў яе сваю душу і здольнасьці Соня Арцюшэнка, нарыхтаваўшы такіх прысмакаў, якіх мы перад гэтым не каштавалі ні ў адным рэстаране. Мабыць, надыйшоў час саутрывэрскай грамадзе прысвоіць Соні званьне кухара самай высокай катэгорыі.

Але-ж не аднымі прысмакамі жывуць людзі. Асабліва, калі сярод іх трапіцца такі заўзяты танцор, як Мікола Котаў. Нездарма-ж на Беларусі ён не адзін танцавальны гурт паставіў на ногі. А ў гэты вечар ладзіў Лявоніху. Усе паўсхопліваліся зь месцаў, закружыліся, завіхурыліся нібы ў паэме «Тарас на Парнасе». А потым, аддыхаўшыся, сьпявалі песьні — вясёлыя, жартоўныя, і сумныя, задуменныя. Заімгліліся вочы. I людзі быццам былі ўжо ня тут, а там, на Беларусі, адкуль выехалі хто ў юначым, а хто ў дзіцячым узросьце, пад крывавжэрны грукат вайны...

Назаўтра адлёт дахаты. Да Ірляндыі ляцелі амэрыканскім самалётам, а з Шанона сваім «Ту-134». Здавалася, зноў адна сям'я, дзэці аднага народу. Але па-беларуску размаўлялі толькі мы зь Міколам. I да нас нечакана пачалі хінуцца людзі. Не глядзелі як на «калхознікаў» ці «нацыяналістаў», а як на сваіх, родных, блізкіх, па кім яны засумавалі, пабыўшы працяглы час за мяжой. І як шкадавалі, што не пашанцавала ім пазнаёміцца з тутэйшымі амэрыканскімі беларусамі.

Шмат каму расказваю я тут пра сваю паездку. Кажучы, што была ў Амэрыцы, заўжды дадаю — беларускай. Большасьць адразу-ж задае пытаньне: няўжо нашы эмігранты сапраўды чуюцца беларусамі і нават гавораць па-беларуску? Так, — адказваю, — ня толькі размаўляюць, але і сьпяваюць, і ладзяць розныя імпрэзы, і ў царкве вядуць службу па-беларуску, просяць Бога, каб ён дараваў нашай краіне і яе народу добрую долю і шчасьце.

Хочацца верыць, што мінуцца нягоды і напасьці, народ наш акрыяе ад здраньцвеньня, пазбавіцца ўсяго ліхога і ўсе беларусы, дзе-б ні былі, сядуць за вялікі бяседны стол і адзіным хорам засьпяваюць словы хвалы «Магутны Божа, Уладар сусьвету».

Дзякуй вам, дарагія людзі, нашы далёкія суродзічы, за ўсё добрае, за тое, што вы ёсьць.

**Таня Лецка**

# ПАМЯЦІ ЛЯВОНА СЛУЧЧАНІНА

Менскія газэты паведамілі нядаўна, што Лявон Случчанін больш ня жыве. I думалася-спадзявалася, што зноў памылка, як было тое ў 50-я гады. Тады, друкуючы вершы паэты ў альманаху «Ля чужых берагоў» у разьдзеле «Абарваныя струны», пісалі пра яго ўяўную сьмерць неўзабаве пасьля капітуляцыі Нямеччыны. У лісьце да С. Станкевіча Юрка Віцьбіч пісаў: «Дасылаю Вам нізку вершаў і біяграфію выдатнага Лявона Случчаніна. Акрамя вышэйпададзеных вершаў дадаю яшчэ два ніжэй. «Задымела вёска» — добры, цёплы твор. Як на Ваш погляд? У тым выпадку, калі нашыя погляды супадаюць, дык можа яго варта зьмясьціць паміж «Песьня мая, песьня» і «Песьня цяплу». Што датычыць »Аўтаэпіграмы», дык, пэўна-ж, яна не падыходзіць для альманаху, але мімаволі прыгадваецца. А ўвогуле з усіх «Слуцкіх песьняроў» Случчанін найбольш талентавіты».

Ушаноўваючы сьмерць Лявона Случчаніна, беларуская газэта паэты, друкуем упершыню «Аўтаэпіграму» (1944, Уэльцен), а таксама верш з часапісу «Аб'яднаньне» (1(39)-1951).

На бой —
за славу!
На бой —
за волю!
На бой —
за слаўны люд!
Каб вораг больш
Ня змог ніколі
Народ прыгнечваць тут!

* * *

На цукровым тоўстым чане
верш пісаў Лявон Случчанін.
Хоць у чане цукар бродзіць —
верш салодкім ня выходзіць.
Пашчасьлівіла Лявону
выпіць пляшку самагону.
І тады за час кароткі
напісаў ён верш салодкі.

**Л.Ю.**

Рэдакцыя газэты дзякуе за прысланыя газэтныя выразкі: Ю. Кіпель, М. Раецкі, С. Будкевіч, А. Маркевіч, Б. Даніловіч, М. Швэдзюк, Л. Яцкевіч, К. Верабей, М. Лужынскі, Я. Жамойцін, А. Кіпель, В. Мельяновіч, Ю. Найдзюк, К. Забараў, Р. Навуменка, А. Баханчык, Т. Мішчанка, Н. Касмовіч, М. Пашкевіч, М. Грэбень. А. Міцкевіч, Б. Рагуля, К. Акула.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА : НОВЫ ЎГЛЯД

*(Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч)*

Лагойшчына, адкуль паходзяць славутыя этнографы і краязнаўцы З. Даленга-Хадакоўскі і К. Тышкевіч, дала нам яшчэ аднага фальклярыста, лексіёграфа — Адама Варлыгу (Язэпа Гладкага). На эміграцыі можна застацца пісьменьнікам, гісторыкам, але стаць этнографам, пісаць, ня з кніг, а з памяці, пачаць новую, некранутую да цябе дзялянку — рэч унікальная. Пэдагог, выдавец, Адам Варлыга адзін зрабіў вартае цэлага сэктару Інстытуту мовазнаўства на Беларусі: «Краёвы слоўнік Лагойшчыны», 1970, «Прыказкі Лагойшчыны», 1966, «Дадатак да зборніка «Прыказкі Лагойшчыны», 1972, «Забабоны», 1972, «Чатыры ўрачыстасьці», 1970, «Народныя казкі» ў трох кнігах, 1967-1972, «Для малых дзетак. Дзіцячы фальклёр», 1965, «Практычныя назіраньні над нашай жывой мовай», 1966 і іншыя, выдадзеныя яшчэ ў часы лягероў ДП, падручнікі, чытанкі. (Яшчэ адзін невялічкі зборнічак, укладзены Варлыгай і надрукаваны на машынцы ў колькасьці 15 экзэмпляраў, рыхтуецца зараз да перавыданьня). І адсутнасьць ягонага імя нават у такой энцыкляпедыі, як «Беларуская мова» (Мінск, 1994), гаворыць хутчэй пра якасьць гэтага даведніка.



У «Запісах» БІНІМу у 1974 г. друкаваўся ўрывак з кнігі Варлыгі «Чутае-Бачанае-Перажытае», поўны рукапіс якой захоўваецца ў архіве БІНІМу. Тая кніга — успаміны, а яшчэ твор нацыянальна-фальклёрнай плыні беларускай літаратуры. «Я задумаў пісаць гэтую работу яшчэ ў Нямеччыне ў 1949 годзе. А гэта сталася выпадкова. Мне аднаго разу ўсплыло на думку, што добра-б было, каб дзе наўрэцца на такія запісы, як у нашым краі жылі людзі дваццатрыста гадоў таму назад: што яны елі, у што адзяваліся, што сеялі, як што радзіла, як яны праводзілі вольны час, колькі й якога мелі статку, якія мелі будынкі. Тыя людзі не пакінулі посьле сябе запісаў, бо былі напісьменныя, і мы на іх за тое крыўдзіцца ня можам. А можа было-б цікава тым людзям, што будуць жыць пасьля нас за дваццатрыста год, як мы жылі? А калі мы гэтага не запішам, дык яны будуць мець падставу на нас наракаць за гэту нашу нядбаласьць. Дык вось я тады й наважыў узяцца за гэту работу, каб дагадзіць людзям, што зьявяцца па нас». У кнізе можна знайсьці апісаньне сялянскай хаты з дакладнымі памерамі, статка, показкі пра чарцей суседнічаюць з пэдагагічнымі назіраньнямі, гісторыяй школы на Лагойшчыне. Бадай што кажны знойдзе цікавае для сябе: рэвалюцыйны Віцебск і антыпольская партызанка, Краснаборская школа і настаўніцкія канферэнцыі, партрэты прафэсараў і студэнтаў. Даваеннае жыцьцё паказана з такімі дэталямі, якія наўрад ці можна адшукаць у другой крыніцы, нават каштарысы на тканіну і зброю ёсьць. З часоў жыцьця ў лягерох ДП надзвычай цікавыя, неабыякавыя партрэты М. Шылы, Х. Ільляшэвіча, С. Каўша.

Адам Варлыга, мабыць, першым паспрабаваў суаднесьці назвы беларускай зямлі, словы з пэўнымі колерамі: «Больш за ўсё мяне цяпер цікавіць фантазыя колераў. Калі я спрымаў у галаву новы прадмет, дык ён павінен быць у маёй памяці наглядным: я ўяўляў ягоную й форму й колер. Але амаль адначасова ўспрымаліся рэчы далёкія, якіх я не мог бачыць, а таксама прадметы разумовыя, якіх не мажліва бачыць. Гэткія прадметы ў маім уяўленьні мелі туманную неакрэсьленую форму, але колер мелі. Некаторыя колеры я й цяпер вельмі добра памятаю: Лагойска — на цёмным фоне шмат сьветла жоўтых крывуль, як палазоў. Менск: амаль гэткія самыя крывулі, але цёмна жоўтага (залацістага) колеру сярод такога-ж цёмнага фону. Нядзелька — ружовага колеру, як той прамень, што ляжыць каля парэкліці (па ім усходзілі на пярэкліць, калі ў клець ішлі. Мысьлі: на цёмным фоне група белых плям адна ля аднэй. Думка: сярод цёмнага фону група з жаўтавым адценьнем на краёх сівых плямак адна ля аднэй, форма іх падобна воку, а асяродак плямкі цямнейшы. Вёска Лішчацы: на цёмным фоне група сівых плямак з пунцовымі краямі. Вёска Прудкі: група стоцявых сівых падобна да ласковых кійкоў. Вёска Церахі: група сівых хваль. Вёска Чэрнева: група чорных хвалістых лініяў адна на аднэй, і адрозьніваюцца вузенькімі сіваватымі. Вёска Грамніцы: група пунцовых хваляў».

Адам Варлыга памёр, не пасьпеўшы скончыць працу, якой быў ня вельмі задаволены, бо лічыў, што «не дасягнуў мэты: усё таптаўся каля свае асобы». Сёньня 500 старонак рукапісу выглядаюць ня толькі жыцьцяпісам аднаго чалавека, тое жыцьцяпіс часу, мейсца, падзей. З цягам часу імя Адама Варлыгі будзе такім-жа хрэстаматыйным, якімі сёньня з'яўляюцца імёны Нікіфароўскага, Раманава, Шэйна, Шпілеўскага. Патрэбнае адзінае, якое ўжо не залежыць ад самога аўтара.

Рукапіс — сотні занатовак, накідаў — доўгі час перахоўваў сп. А. Шукелайць, спадарыня Ю. Андрусышына скампанавала ў адзін тэкст, адрэдагавала і перадрукавала на машынцы. Цяпер гэты тэкст у архіве БІНІМу і трэба імкнуцца яго выдрукаваць.

# ЦЫТАТЫ...

Ёсьць кнігі, на якія цяжка пісаць рэцэнзіі, іх хочацца цытаваць, цытаваць, бясконца. Сёньня — пра дзьве такія.

Аўтарства першай, «Зьмітрок Бядуля», належыць доктару філалагічных навук, прафэсару, акадэміку і «прочая» Івану Навуменку. Кніга проста насычана новымі ідэямі. Адну зь якіх, на ст. 88-89, і зацытуем: «Чамусьці крытыкі, літаратуразнаўцы называюць Язэпа Крушынскага кулаком, параўноўваюць зь Лявонам Бушмаром К. Чорнага, Сторажавым з рамана А. Вірты «Адзінота», Астраўцовым з «Узьнятай цаліны» М. Шолахава... Я. Крушынскі, аднак, кулак асаблівы. Калі і параўноўваць яго зь якім-небудзь адметным літаратурным персанажам, то найбліжэйшым яго родзічам акажацца Астап Бэндэр з вядомых раманаў Ільфа і Пятрова». Кніга былога дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навук пазначана як «навуковае выданьне». Яшчэ адна цытатка: «Размовы пра другую кнігу «Язэпа Крушынскага» ня будзе, бо мастацкія вартасьці яе нізкія. Кніга распадаецца кампазіцыйна: як кажуць, ні да сяла, ні да горада». Ну будзем дзівіцца, калі кніга пра Зьмітрака Бядулю атрымае Дзяржаўную прэмію, як адбылося з ранейшымі кнігамі І. Навуменкі пра Купалу і Коласа: як кажуць, які поп, такі і прыход..

Другую кнігу я назваў-бы самай сьветлай і самай 'смачнай' 1995 г. Напісаў яе Рыгор Барадулін — «Аратай, што пасьвіць аблокі». Гэта, па вызначэньню аўтара, некананізаваныя ўспаміны пра Караткевіча і Рыгора Бярозкіна, беларуса ў Парыжы Барыса Заборава і Міхася Стральцова, П. Пестрака і Г. Цітовіча. Героі кнігі — звычайныя людзі, што любяць часам выпіць, умеюць сябраваць і ненавідзець. А яшчэ ў кнізе ёсьць частачкі «Здубавецьцяя» (на Ушаччыне, адкуль паходзіць пісьменьнік, гэтак называюць усё абы-як сабранае, выдуманае, вясёлае і сумнаватае) і «Прыбабунькі» (каламбуры, прымаўкі, досьціпы). Вось некаторыя зь іх.

* * *

Ідзе сабе маладзіца дый, як любіў казаць некалі Караткевіч, «маскаля пускае», гучна страляе, бо навокал нікога. Але праз нейкі час вырашыла азірнуцца. За ёй ідзе мужчына.

— Ці даўно ты ідзеш, чалавеча?

— Адтаго, як ты першы раз рогнула.

* * *

На калёсах мужык вязе Калініна. Колы нямазаныя. Рыпяць. Седаку гэта не па нутру. Вазак спыняе каня. Скідвае порткі і проста на ўтулкі валіць. Калінін абураецца:

— Што ты робіш?

— Якая ўлась, такая і мазь!

* * *

Да ўрача прыйшла жанчына ў гадах. Урач гаварыць, як і належыць вучонаму чалавеку, толькі па-руску. Ставіць шклянку з вадой ды кажа:

— Пей!

Жанчына і запела:

— Пасею гурочкі...

На Беларусі фальклор жыве і сёньня. Адзін з няўрымсьлівых творцаў яго, гэтакі сучасны баечнік, Іванушка расейскіх казак і рэчаіснасьць беларускага жыцьця, Лукашэнка. Крыху ягонага і пра яго (па матэрыялах газэты «Свабода»).

* * *

Рыгоравіч наведаў унікальны Веткаўскі музэй народнай творчасьці. Разглядаючы экспанаты, ён узяў у рукі скураную пугу і прамовіў:

— Усе вешчы красівыя, но эта более палезная.

* * *

На абласной сэсіі ў Гомлі Рыгоравіч на пытаньне, чаму Вярхоўны Савет не разглядае альтэрнатыўныя праэкты, падрыхтаваныя фондам падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі, адказаў, што цяпер ня час разглядаць прапановы «таварышча Сапегі».

* * *

Неяк у суботу, 7 студзеня, прыйшоў Рыгоравіч у менскі Сьвятадухаўскі Катэдральны сабор на сьвяточнае набажэнства Нараджэньня Хрыстова. Ён ня хрысьціўся, але выйшаў на амбон і пачаў прамаўляць: «Сімвалічна, што наша страна атмячаець празднік на пачатку года». За сьвяточным сталом у Эпархіяльнай управе ён зноў узяў слова: «Я скажу тост, каторы гавару трэці раз у гэтым гаду. Я прадлагаю выпіць за жэншчын», заявіў прэзыдэнт на сьвята Божага Нараджэньня.

* * *

Перад новым гадам захацеў Рыгоравіч паглядзець, як раджаюць жанчыны ў 9-й менскай клініцы. На няшчасьце, усе пасьпелі нарадзіць, не дачакаўшыся вялікага госьця. Тады Лукашэнка пачаў хадзіць па палатах. Доктар спрабаваў растлумачыць, што гэта спэцыфічнае аддзяленьне з асаблівым санітарным рэжымам, на што прэзыдэнт з годнасьцю адказаў: «Я сягодня мыўся ў душы!».

* * *

Праца ў прэзыдэнта складаная, нэрвовая. Вось на філалагічным факультэце Беларускага ўнівэрсытэту лукашэнкаўскі сьцяг скралі, а на гістарычным падпалілі. Таму новы павесілі на больш бясьпечнай вышыні ды прымацавалі да сьцяны, схаваўшы пад шкло. Мабыць, праз усе непарадкі здароўе Рыгоравіча кепскае. Калі 24 студзеня ён спыніўся ў Сьветлагорску для сустрэчы са сваім народам, у раённай бальніцы вызвалілі — на ўсякі выпадак — чатыры палаты: у кардыялагічным, рэанімацыйным, траўматалагічным і хірургічным аддзяленьнях. Хворых, натуральна, перавялі ў іншыя, ужо перапоўненыя палаты, дзе, мабыць, яны ад шчырага сэрца, як ніколі, жадалі добрага здароўя Рыгоравічу і хутчэйшага вяртаньня ў Менск.

**Л.Ю.**

## СЬВ. ПАМ. ПАВАЛ БРУШКЕВІЧ



7-га сакавіка г.г. адыйшоў у вечнасьць, на 83-м годзе жыцьця, Павал Брушкевіч. Нябожчык Павал пакінуў у суме жонку Анну, дачок Люсю й Гэлену, сына Робэрта ды ўнука Таммі. Павал Брушкевіч памёр раптоўна й спакойна ў сваім доме ў прысутнасьці сваё жонкі і дачкі Люсі.

Сьв. пам. Павал Брушкевіч быў чалавекам зраўнаважаным, чэсным і справядлівым ды вельмі пунктуальным. Ён зьяўляўся заўсёды і ўсюды паўгадзіны раней перад вызначаным часам; браў чынны ўдзел у розных беларускіх імпрэзах і паходах за свабоду для Беларусі, а таксама у дэманстрацыях за вызваленьне Міхала Кукабакі з гулагаў у СССР. Ён быў адным з заслужаных беларускіх патрыётаў.

На візытацыі цела нябожчыка ў пахавальным доме «Музыка і Сын» 8-га сакавіка сабралася група знаёмых беларусаў і сяброў сям'і Брушкевічаў. Дамавіна была ўпрыгожана кветкамі ад сям'і, знаёмых і Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага. На пакрыўцы ў дамавіне з сярэдзіны была завешана жонкай Анай стужка з бел-чырвона-белым сьцягам, які ён заўсёды верна і горда нёс рэпрэзэнтуючы Беларусь дзе-б толькі не надарылася нагода. Гэтую стужку паграбовы злажыў і разам з крыжам, уклаў у рукі пакойнаму, калі зачынялі дамавіну вязьці на праваслаўныя магілкі Элмвуд. У часе візытацыі таксама стаяў на падоліку дамавіны мантаж, злажаны з фатаграфіяў, прадстаўляючы жыцьцё нябожчыка і яго сям'і.

Пахавальны абрад 9-га сакавіка выканаў а. Вячаслаў Ільчук, украінец. Ён таксама служыў паніхіду пры дамавіне 8-га сакавіка ўвечары. Яго жонка Ірэна, з паходжаньня беларуска, кіравала адпяваньнем.

Пасьля паніхіды кароткае слова сказаў пабеларуску Мікола Латушкін зь Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я, ды таксама пабеларуску і па ангельску прамовіла і аўтарка гэтых радкоў, якая ведала нябожчыка з жыцьця разам у лягеры «АБЦ» ў Ватэнштэт у Нямеччыне, дапамагала ў прыездзе сям'і Брушкевічаў у ЗША, прысьвяціўшы памяці нябожчыка і свой верш. Пасьля паховінаў сям'я нябожчыка запрасіла прысутных на абед у рэстаран.

Нарадзіўся пакойны Павал 18-га лістапада 1913-га году ў Палаўковічах Клецкага раёну. Пасьля бацькі Паўла пераехалі ў Клецк. Павал закончыў там 7-мі клясоўку і Земляробную школу. Усё сваё жыцьцё ён пасьвячаў для Беларусі, незалежна куды яго лёс закінуў. Ён любіў сваю Бацькаўшчыну Беларусь, яе народ і культуру ды вельмі ганарыўся тым, што ён беларус і не выракаўся Беларусі нават над прымусам.

Калі палякі паклікалі яго на вайсковую службу і ўбачылі яго здольнасьці, палкоўнік рэкамэндаваў паслаць яго у афіцэрскую школу, але радзіў яму зрачыся беларускай нацыянальсьці і праваслаўнага веравызнаньня. Нябожчык Павал на гэткае не пагадзіўся. Вярнуўшыся з войска, ён працаваў у малачарні і кантраляваў чыстасьць вырабу масла. У часох савецкай і нямецкай акупацыяў у 1939 годзе і 1941 годзе ён працаваў сакратаром на пошце і ў пажарнай ахове. У 1943 годзе ў кастрычніку Павал ажаніўся. Нядоўга маладой пары давялося жыць у сваёй роднай Беларусі. Ужо ў 1944 годзе яны апынуліся ў эміграцыі. Іхны першы прытулак быў у гітляроўскай Нямеччыне. Спачатку праца на гаспадарцы, потым капаньне акопаў непадалёк Кэнігзбэрга, патыму Бэрліне ды ў кляштары ў Вэстфаліі, дзе сям'я дачакалася акупацыі Нямеччыны аліянтамі ў 1945 г.

Наступіла жыцьцё ў Д.П. лягерох. Ад 1948-га да 1951-га гадоў яны жылі ужо ў беларускім лягеры «АБЦ» у Ватэнштэце, адкуль у 1951 годзе выехалі ў Францыю, дзе нябожчык Павал працаваў у капальні вугля. Пасьля нейкага часу Паўлу стала нездаровіцца і ён з сям'ёю у 1955 годзе вярнуўся ізноў у Нямеччыну і пасяліўся ў лягеры Зээдорф.

У ЗША Павал з сям'ёю прыехаў у 1957 годзе, але не бяз цяжкасьцяў. Якісь бюракрат з Вашынгтону перашкаджаў кажучы, што беларусы не падлягаюць эміграцыі ў ЗША. У іх справе інтэрвэнявалі сэнатары Эвэрэт Тэккінлі Дырксан і Пол Дагляс і прыезд Брушкевічам у ЗША ня толькі быў дазволены, але і прысьпешаны.

У Чыкага нябожчык працаваў звыклым рабочым у газэце «Чыкага Трыбюн» ад 1957 аж да 1977 году, калі ён перайшоў на пэнсыю.

Хай няўстанны змагар за радзіму, за праўду, свабоду, справядлівасьць і правы беларускага народу сьпіць цяпер спакойным сном на гэтай вольнай зямлі Вашынгтона. Хай яму сьніцца яго любая сінявокая Беларусь, а памяць аб ім будзе вечна жыць у сэрцах тых, хто яго ведаў за жыцьця.

Сям'і пакойнага Паўла жадаю мужнасьці й вытрываласьці ў ператрываньні гэтае сямейнае страты.

**Вера Рамук**

## ПАПРАЎКІ Й ВЫБАЧЭНЬНЕ

З-за карэктарскага нагляду ў папярэднім нумары «Беларуса» ў рэпартажы аб адзначэньні 25 сакавіка ў г. Саўт-Рывэры выпала прозьвішча аўтара МІХАСЯ БАХАРА. Перапрашаем.

Ахвяраваньне сп-ства У. і Н. Русакоў на газ. «Беларус» — $50 — было у памяць д-ра Г. Тэддонэ.

## ВАРТАСНАЯ КНІГА

У менскім выдавецтве **Навука і Тэхніка** выйшла праца *Радыяактыўнае забруджаньне расьліннасьці Беларусі (у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС)*, пад агульнай рэдакцыяй акадэміка Віктара Парфёнава й членакарэспандэнта Акадіміі Навук Беларусі Барыса Якушава. Гэтая аб'ёмістая (582 бачыны), арыгінальная й унікальная манаграфія зьмяшчае працы экалёгаў-біялёгаў Інстытуту Экспэрымэнтальнай Батанікі Акадэміі Навук Беларусі, якія зь першых дзён пасьля аварыі працавалі ў «Зоне». У кнізе падаюцца рэзультаты дасьледваньняў радыяактыўнай забруджанасьці тэрыторыі Беларусі і яе прыродна-расьлінных комплексаў. Прасочаны кругаварот радыянуклідаў у лясных і лугова балотных біягеацэнозах; вывучаныя заканамернасьці ўзьдзеяньня іянізуючай радыяцыі на фізіялёга-біяхімічныя працэсы ў расьлінах, разгледжаныя цытагенэтычныя зьмяненьні ў некаторых відах дзікарастучай флёры пры рознай шчыльнасьці радыяактыўнага забруджаньня глебаў, паказаныя асаблівасьці накапленьня радыянуклідаў у расьлінах у розных экалягічных умовах; пададзеныя практычныя прапановы адносна рацыянальнага выкарыстаньня біялягічных прыродных рэсурсаў — драўніны, лекавых траваў, ягадаў, грыбоў — у залежнасьці ад шчыльнасьці забруджаньня глебаў радыянуклідамі.

Кніга будзе карыснай для біёлягаў, экалёгаў, працаўнікоў лясной і сельскай гаспадарак. Яна была-б карыснай таксама для ўраду Рэспублікі Беларусь, бо калі-б ён, гэты ўрад, прыслухоўваўся да рэкамэндацыяў навукоўцаў — менш было-б экалягічных бедаў і няшчасьцяў.

**Д-р Павал Парфёнаў**
**Монтрэаль**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі падпіску і ахвараваньні на газэту скарбніку Сяргею Трыгубовічу:*

| | |
|---|---|
| Р. Галяк ам. дал. | 50 |
| М. Тулейка | 50 |
| Л. Кавалёў | 45 |
| Ю. Бяроза | 35 |
| У. Адашкевіч | 30 |
| Б. Данілюк | 30 |
| Г. Гэльвіг | 30 |
| М. Радчанка | 30 |
| У. Харавец | 20 |
| В. Буран | 4 |

*Спадару А. Міцкевічу:*

| | |
|---|---|
| М. Занкавіч | 250 |
| М. Бядроўскі | 50 |
| С Будкевіч | 50 |
| Ф. Верамейка | 45 |
| Я. Міхальчык | 30 |
| А. Сідаровіч | 30 |
| У. Карніловіч | 15 |
| Я. Хахолка | 55 |
| Т. Дамінік | 45 |
| Л. Міхалюк | 30 |
| М. Швэдзюк | 58 |
| М. Дзейко | 45 |
| А. Ражанеец | 45 |
| А. Якубовіч | 68 |
| М. Бояроўскі | 58 |
| С. Будкевіч | 58 |
| М. Сенько | 85 |

## Ахвяраваньні на выданьне твораў Юркі Віцьбіча

| | |
|---|---|
| Л. і У. Брылеўскія | ам. дал. 250 |
| Адзьдзел БАЗА, Нью-Ёрк (праз сп. А. Міцкевіча) | 50 |
| Беларуска-Амэрыканскія Вэтэраны (праз сп. М. Тулейку) | |
| М. Тулейка | 30 |
| Л. Норык | 30 |
| Я. Азарка | 25 |
| У. Машанскі | 10 |
| А. Субота (прысланыя раней) | 50 |
| М. Баяроўскі | 30 |
| Н. і С. Дудар | 10 |
| В. і Э. Ковэт | 75 |
| Л. Беленіс | 100 |
| І. Пануцэвіч | 100 |
| М. і В. Пашкевіч | 50 |
| П. Урбан | 97 |
| Г. Стукаліч | 50 |
| Я. Раковіч | 50 |
| А. Кабяка | 30 |
| Я. Шымчык | 50 |
| П. і В. Зыбайла | 40 |
| З. Смаршчок | 100 |
| Л. Бакуновіч | 25 |
| О. Канарчук | 50 |
| У. Траскевіч | 20 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| Н. Орса | 20 |
| Я. і І. Сурвілла | 200 |
| К. Ворт | 100 |
| Хв. Кажаневіч | 30 |

### *АБВЕСТКА*

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паведамляе, што ў выдавецтве БІНІМу ёсьць яшчэ творы Ул. Дудзіцкага, А. Салаўя, Н. Арсеньневай і М. Цэлеша. Цана кажнае кнігі $25.00. Калі замаўляюцца ўсе чатыры разам — зьніжка 20%.

Падтрымвайце выдавецтва БІНІМу — купляйце кнігі беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў на эміграцыі.

Прыймаецца падпіска на кнігу Ю. Віцьбіча «Антыбальшавіцкая паўстаньні і барацьба на Беларусі».

## БЕЛАРУСЬ НА "INTERNET"

Шаноўныя беларускія сябры!

Я нядаўна знайшоў на кампутарнай сетцы цікавую старонку, якая дапамажа вучыць нашых дзяцей і ўнукаў пра Беларусь. Старонка гэта называецца *"Belarusan Home Page"*. Аўтар яе — Аляксей Арцюховіч. Каб адкрыць гэту старонку, трэба мець спэцыяльныя кампутарныя магутнасьці: кампутар мусіць мець ня менш за 8 MB памяці (8 Mg RAM – Macintosh or PC) і праграмнае забесьпячэньне (software) "-Netscape Navigator" — вэрсія першая або другая, а таксама модэм з хуткасьцю 14400 bps ці 2880 bps.Адрас пішацца такім чынам: http://faraday.clas.virginia.edu/~ana4a/-Belarus.html. Важна пісаць дакладна, як паказана. Калі вы ня ўмееце карыстацца кампутарам, запытайце "-Cleveland Free Net" у Case Western Reserve University, і тэхнікі дапамогуць вам знайсьці гэту старонку. Я спадзяюся, што матар'ялы будуць карысныя для ўсіх вас.

Ваш амэрыканскі сябра,
Эван Аўлд

Evan Auld
482 Wolcott Ave.
Kent, Ohio 44240